# ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ

1931

ЛІПЕНЬ

№ 14

Б 03

Дублет

27

Бо 1540



МЕНСК БУДУЕЦЦА

# Зьмест:

ПРОЛЕТАРЫ ЎСІХ КРАІН, ЭЛУЧАЙЦЕСЯ!
ЛІПЕНЬ 1931

# ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ

№ 14

АДРАС РЭДАКЦЫІ, САВЕЦКАЯ, 59
Тэл. № 11—09.

## БУДУЕЦЦА ЗАВОД У МАСКВЕ

РЭВОЛЬВЭРНЫХ СТАНКОЎ
І НАПОЎАЎТАМАТАЎ

(БУДАЎНІЦТВА ПРАВОДЗІЦЬ ТРЭСТ „БУДАЎНІК")



ФОТА-ЭЦЮД

БУДУЕМ




Апавяданьне Рыгора Мурашкі.

Малюнкі ІЗМАЙЛАВА.

Высока ўгару імкнуцца зграбныя рыштаваньні. На цэлага паўквартала абягаюць яны, бы ў клетцы, трымаючы ў сваіх крохкіх формах вялізарную істоту з каменьняў, жалеза і цэглы. Быццам стараецца яна разламаць, пакрышыць крохкія формы сваіх кайданаў, вырвацца з іх няволі і распаўсьціся на суседнія вуліцы, перарэзаць дарогу лёгкім аўто і звонкім трамваям. Але дарэмна. Як мурашкі, лёгкія, правароткія, уляпілі рыштаваньне будаўнікі—ня вырвацца. І замест таго, адзін на адзін накладваюцца паверхі, вырастае павольна прыгожы гмах. І час-ад-часу прыбываюць у сваім росьце рыштаваньні, зграбна імкнуцца ў пахмурную вышыню восеньскага шэрага неба.

На рагу, на адным з самых адказных вучасткаў работы, працуе стары муляр Рузік. З самага нізу на трэці паверх яму падносіць цэглу сын яго Стась. Уціскаецца ў плечы цяжкая „каза", поўная звонкае цэглы; цяжка крэкчуць пад нагамі, гразёю абліплыя, сходкі. На трэцім паверсе сьлізганулася нага ў Стася і, каб не ўхапілася рука за стопку рыштаваньня, сапхнула-б цяжкая „каза" далоў, прыдушыла-б на сьмерць.

Убачыў няўпраўку стары Рузік, кінуў насустрач сыну незадаволена:

— Ну што там ужо?

— Нічога.

Змоўчыў Стась, бацька і без таго нешта злуе. Часамі бяз дай прычыны, здаецца, ссунуцца на вочы сіваватыя бровы, тарганецца неяк сьмешна бруднаваты вус, выплюнецца ў вільготнае паветра гняўлівае слова. І цяпер Стась змоўчыў.

— Хутчэй ты паварочвайся,—азываецца яшчэ стары Рузік і цьвердая цэгла ў яго жылаватых сухіх руках робіцца мяккім падатным матэрыялам, з якога ён, што захоча зробіць.

— Я і паварочваюся... Не дарма ў брыгадзе...

Стары Рузік з сынам, як і ўсе рабочыя на гэтай будове працуюць на вырабатак. Мабыць затым і прыганяе сына стары муляр—цэлую зіму, бадай, давядзецца жыць бяз працы і без заработку: трыццаці чатырох рублёў страхкасы замала будзе.

Стась слухае бацькі—на ніз па цэглу ён бяжыць бегма, ня хоча гнявіць старога. Але сыходзячы на сходкі, супыняецца крыху—сьмяхотлівы голас маладое дзяўчыны-муляра гэтак падабаецца яму. Дзён пяць як прышла яна сюды, а ўжо колькі пасьпела нарабіцца ад гэтага: стары Рузік, суседкаю якому была яна, усё часьцей пачаў выкорпваць прычыны для злосьці, таксама як усё больш яго сын Стась не разумеў яго гэтае злосьці.

-- Стась, ты ўсё адно як ад злосьці ўцякаеш. Не бяжы гэтак,—бачыш траха ня ўпаў з цэглаю.

Нотка руплівасьці сяброўскае чуецца ў апошніх словах дзяўчыны.

— Нічога, устаў-бы каб скінуўся,—адказвае ёй Стась, але сустракаецца вокам у вока з дзяўчынай, быццам хоча нешта большае за гэта сказаць.

І сходкі ўжо пагойдваюцца пад нагамі і Стасю ўспамінаюцца раптоўным наплывам дзяцінныя гады і ясна-ясная вясна. Першыя ўсьвядомленыя ўражаньні тых гадоў залатой мітульгой рассыпаюцца перад вачыма. Багацьце фарбаў, радасьці, дзіцячага вулічнага колектыву, першыя сымпатыі і антыпатыі... Стась не заўважае як падыходзіць да сьцірты цэглы, як скідае з плеч „казу" і пачынае нагружаць яе. І калі бярэ цяжар на плечы, тады варочаецца да свае будзёншчыны, і лёгка трыпяткі смутак прыходзіць. Але зараз-жа Стасю і рада сна: на рыштаваньні дзяўчына-муляр дарыць яго ясным сяброўскім поглядам. Тады вялікая радасьць пераплятаецца з лёгкім смуткам і наплыў нябывалай энэргіі напруджвае Стася. Ад гэтага выбухаюць агромністыя жаданьні рабіць—тварыць за пяцёха, за дзесяцёх, у адну хвіліну ўзьнесьці рэшту паверхаў на вялізны гмах і ў радасным адчуваньні свае сілы, творчай магутнасьці непераможнасьці сказаць: „Жыві"!

---

Ідучы дахаты абудва маўчалі, нібы цяжкая змора задушыла ўсякае парываньне думаць. Стары Рузік ішоў павольнаю размеранаю хадою і Стась міжвольна выпярэджваў яго. Але паступова і машынальна стары прыбаўляў крокаў, каб не астацца ад сына і нават пачаў неўзаметку сачыць за тым, як ідзе Стась. Той ішоў маладым упэўненым крокам, і стары ніяк ня мог патрапіцьісьці з ім уповень. Тады ставіў далей нагу і шырокім крокам параўноўваўся з Стасем.

На рагу вуліцы моцным голасам выгукваў газэтнік назву газэт. Стась прыпамянуў пры гэтым, што надоечы адбыўся тыраж аднае пазыкі. Стары Рудзік, гледзячы на Стасевы ногі, убачыў як той адышоў і ўзяў у газэтчыка сьвежы газэтны аркуш, пераламаў яго колькі разоў, схаваў разам з рукою ў кішэню, параўнаўся зноў з бацькам. За гэтым аднекуль здалёк пацяглася млявая думка.

„Вось-жа ні нашто не ўважае, робіць, што сам хоча".

Яму і самому было невядома чаму гэтак раптам падумалася да рэчы не газэта павяла яго на гэтую думку. Нешта вось глыбока схаванае выштурхнула яе напаверх і стары Рузік адчуў, яе цялеснасьць. Яшчэ здалёк узялася яна і на момант перад вачыма ўстаў вобраз яго суседа па працы дзяўчыны-муляра. Зьнік. І потым мітульга асеньняй імглой займжыла ў ваччу Вырвалася голасам.

— Усё ж ты гэтак... На свой манер ломіш.

— Што, тата?—пасьпешна спытаўся Стась і мільгом зірнуў на бацьку.

Той не пачуў нібы запытаньня. Васеньняя імгла зьнікла з воч і ўперадзе над дахам доміка, стылю і віду якога не ўявіць сабе, вырысаваліся дзікае крыжападобнае формы іржавабляшаныя коміны. Рузікі спрадвечныя рабочыя сэзоньнікі. Продкі іхныя былі адны сталярамі, другія мулярамі, трэція каменшчыкамі. Ад дзядоў к бацьком, ад бацькоў к дзецям пераходзіць гэтая спадчына, таксама як і стары ці ня прадзеда толькі старога Рузіка на Старой Завальнай вуліцы дом. Гэта было там, дзе заўсёды заходзіла сонца і дзе ўсходу яго ня бачыў ніхто з мяшчанцаў старога дому, які дахітрыліся пабудаваць некалі на два паверхі, але з якога вышла, як кажуць, ні два ні паў-

тара. Пяць бляшаных комінаў, з двума дымаадводамі кожны, высіліся над іржава-чырвоным дахам, як тыя крыжы на могілках. Апошнія часы яны ўсё часьцей ды часьцей, асабліва калі стары Рузік вяртаецца з работы, нагадваюць сабою старэнькія крыжы на могілках і міжвольна напамінаюць аб сьмерці. І сёньня, калі стары Рузік быццам прачнуўся ад сынавага запытаньня у вочы кінуліся гэтае дзікае формы крыжападобныя коміны—і ён не адказаў нічога. У душы запанавала журба, ціхі стан падначальнасьці чамусьці няўнікнёнаму быццам, а ўрэшце ім самім створанаму, завалодала ім. Нібы аднаўляючы старую гутарку, сказаў больш сам сабе чым сыну:

— Хай... Як сабе хоч.

Але гэтым гутарка ня скончылася. Прышоўшы ў хату, ён кінуў на покуць шапку і пахмурна павёў вокам па хаце. Усё наўкола сваім мізэрным выглядам крычала аб жыцьці, аб жалезным законе існаваньня, барацьбы за жыцьцё. Кожная дробязь, кожная латка ў падлозе, кожная пабітая і налапленая шыба, паразьвешваныя на сьценах фотографіі блізкіх дарагіх, якія даўно паўміралі—усё гаварыла аб цэлых дзесятках год жорсткага пакутнага жыцьця, змаганьня за права есьці хлеб, за права цягнуць у бясконцасьць кола Рузікаў,—сэзоньнікаў, каб не зьвялося, быццам у іншым выпадку абязьлюдзела-б зямля і сьвет стаў-бы дагары нагамі.

Стась узіраўся ў газэту, узапёршыся на вакно. Бацька паглядзеў на яго—неяк сьмешна тарганууся брудннаваты вус у старога (з кухні ўваходзіла якраз старая).

— Вось-жа да гутаркі... Думаў маўчаць... ды не маўчыцца...

— Я зараз дам палуднаваць.

— Дасі яшчэ, пасьпееш... Вечна ты сьпяшаешся, а толку з таго хоць-бы на мезены кіпець. Пасьпееш на той сьвет.

— А ты вечна з сваёю злосьцю,—азвалася пакорліва старая, яна ўжо звыклася з гэтым за свой век.

— А бяз злосьці што было-б... З вамі ня злуй, дык усё дагары нагамі..

. Стась адарваўся ад газэты і пачаў прыслухоўвацца да бацькавае гутаркі. Не пяршыня гэта была.

— Парадкі пайшлі...

— Чым дрэнныя,—перапыніў Стась.

— Маўчаў-бы лепей. Ды замест сваіх сходаў ды брыгад працаваць лепш стараўся, ды вучыўся рабіць... Каб майстрам стаць... Так, дрэнныя парадкі.

— Дык брыгады-ж на тое і організуюцца, каб лепш і больш выпрацаваць.

— Прасі грош.

Зноў тарганууся вус у старога і гэта згледзіў Стась.

— Прасі грош з вашых брыгад—дурным людзям галовы марочыць, ды з бабамі ў подміргі гуляць.

— Жанчына мае такія-ж правы, як і мужчына. Чаму-ж скажам жанчына ня можа быць за муляра.

— Не даждала сава адмяніць сакала.

— А вось твая суседка, што каля цябе працуе, ня горш выкладае сьцяну за старых рабочых, яшчэ нават спрытней.

У самае балючае месца патрапіў сваімі словамі Стась, у самалюбства старога, які век зьвекаваў на рабоце муляра.

— Навучыся перш... вось... брацъ у рукі цагліну... чым брацца за знаўца не ў сваёй справе. Падносчыкам вось і зьвякуеш.

Балюча было праказаць старому Рузіку гэтыя словы, бо мерыўся ён па сэнсу сказаць тое самае пэўна іначай, сказаць як бацька сыну, як бацька, які дажывае апошнія гады, а сына яшчэ ня бачыць майстрам і сваім намесьнікам. Ён сказаў гэта і сам спужаўся таго, што сказаў. Ён чакаў адказнага рэзкага слова ад сына ці ад старое, хоць і рэдка гэта чуў ад іх, ён затрывожыўся, але адказам яму быў ледзяны спакой. І стары Рузік, як тую цагліну, у сьцяну свае паказное абыякавасьці заціснуў трывогу, загладзіў цэмантам звычайнае злосьці, усердженасьці—не паказаў знаку, што ў яго на сэрцы.

— Ты заўсёды гэтак, тата,—спакойна і нават з адцяненьнем сыноўнае пашаны загаманіў Стась.—Але-ж я ніколі не вінаваціў цябе за гэта.

Стары прамырмытаў сабе ў вусы і нецярпліва паварухнуўся, але яго зьдзівіў гэты спакойны голас сына.

— Усе вы, старыя, ня так глядзіце на новае, як маладыя, а некаторыя і да самае сьмерці ня могуць зразумець гэтага новага. Хіба-ж няпраўда?

Стары Рузік маўчаў. Ці ён адчуваў праўду сынавых слоў, ці ён думаў як адказаць, ці можа чакаў, што скажа далей сын.

— Вось, памятаеш, колькі гамонкі было некалі наконт пазыкі, ты не хацеў купляць аблігацый. Да рэчы я хачу сказаць, што я ўжо дамовіўся і мяне пераводзяць на мулярскую работу. Я не зьвякую, як ты баяўся, падносчыкам — ня ўпікай мне гэтым.

Зноў прамырмытаў нешта стары і не пазнаць было—думаў ён аскірзнуцца на гэтыя словы, пасупярэчыць яшчэ ці выказваў свае здаволеньне, сваю радасьць, калі была яна ў яго, сынам у гэты момант.

— Але я хачу даказаць пра пазыку... Ты павінен памятаць, колькі спрэчак было, да сваркі даходзіла. Ты хацеў усё сабе выгады, а не разумеў таго, што для ўсіх нас ад гэтага вялікая выгада.

— Эт...

— А цяпер—каб ты умеў чытаць ды паглядзеў у газэту...

— Мяне вучылі бацькі хлеб зарабляць, а ня грамаце.

— І дрэнна рабілі... Дык ты прачытаў-бы, што твая аблігацыя ў апошнім розыгрышы выйграла...

— Ад жылеткі рукавы.

— Дваццаць пяць тысяч рублёў.

---

Яшчэ ніколі гэтак ня дрыжэлі рукі ў старога Рузіка ні ад радасьці, якое мала даводзілася бачыць яму на сваім жыцьці, ні ад страху, які цесна пераплятаўся з горам, ад страху страціць правы на кавалак хлеба. Гэты выпадак не межаваў з радасьцю як не межаваў і з горам. Гэта было надзвычайнае сілы вялізнае ўзрушэньне, якога ня мог спакойна перажыць стары Рузік. Гэта было большае за радасьць і страх, а можа ў ім адным якраз злучалася і тое і тое: радасьць знойдзенага і страх, каб ня ўтраціць. З гарачкі ён пайшоў яшчэ з ранку на працу, але ня вытрымаў. Цагліны клаліся ня роўна, коса, гарбацілася роўная лінія кладкі.



...І таксама павольна сышоў далоў...

Усё гэта відаць ад таго, што рукі дрыжаць*, падумалася раптам—і перад вачыма паскакалі зоркі адна за аднэй, скружаючыся, затуманьваючы ўсю будову, рабочых, цэглу, сьцяну. Ён пахіснуўся і ўхапіўся інстыктыўна за стойку рыштаваньня.

— Абмарачыўся, стары?—гукнуў рупліва-весела яго сусед справа, але стары Рузік пачуў як праз сон і зусім ня ў змозе быў адказаць.

ФОТА КОШАЛЕВА

# ЛЕС ІДЗЕ

## ЛЕСАСПЛАЎ ПА РАЦЭ БЯРЭЗІНА



Пасы, якія прыбываюць з выплаўкі да фарміровачнага пункту.



Выгрузка дроу з баржы.



Нарыхтоўка дрэвасіны ў возеры для транзітнага сплаву.



Выгрузка стойкі з баржы на перавозачным пункце для нагрузкі ў вагоны і адпраўкі ў Донбас.



Гатовая транзітная адзінка да сплаву.



Прыбыўшыя пасы для перафарміраваньня ў транзітныя адзінкі.

# Здарэньне на Маршалкоўскай вуліцы

Апавяданьне АНАТОЛІЯ ВОЛЬНАГА.

Малюнкі ДАВІДОВІЧА

I.

Раўнадушныя белыя камяніцы Вільні і высокае сіняе неба здавалася дзівіліся на гэтых настарожаных, сьмяртэльна варожых друг другу людзей.

У сярэдзіне Ігната Рабцава нешта абарвалася, але ён сабраў волю і надворна спакойным тонам сказаў:

— Здароў Куніцкі!

Далей Ігнат Рабцаў ня ведаў што гаварыць і насьцеражыўся, чакаючы, што будзе рабіць Куніцкі.

Па вуліцы па справах і бяз справы шпацыравалі людзі, афіцэры, шпікі і паліцэйскія.

Ігнат Рабцаў ведаў, што перад ім стаіць провокатар, які ўжо не адзін дзесятак членаў компартыі Заходняе Беларусі аддаў дэфэнзыве.

У сваю чаргу і Куніцкі падазрона ўпіўся вачыма ў Рабцава, стараючыся зразумець, ці ведае ён яго ролю ў партыі ці не.

Тымчасам Рабцаў пасьля першай неспадзяванкі прышоў у і сябе вырашыў перайсьці ў наступ:

— Я цябе даўно шукаў Куніцкі...—сказаў Рабцаў.

Куніцкі ўсё яшчэ пранізваў вачыма Рабцава, але адчуваючы што ён знаходзіцца ў цэнтры гораду, што на яго баку ўсё: шпікі, афіцэры і паліцэйскія, рашыў не сьпяшацца.

— Я цябе таксама хацеў пабачыць...—працэдзіў Куніцкі. Мне трэба пагаварыць з табою па вельмі пільных партыйных справах...—усё болей аўладаючы сабою гаварыў Рабцаў. Толькі тут вельмі людна...—дадаў ён, каб адцягнуць час.—Аб якіх справах гаварыць з гэтай поганьню?—напружана думаў Рабцаў.

... Па важных партыйных справах? — меркаваў у той час Куніцкі...—Адно з двух: ці ён мяне місьціфіцыруе, ці ён набіты дурань.

Але Рабцаў, здавалася, і не ўяўляў з кім ён гаворыць і таму надворна спакойным тонам Куніцкі адказаў:

— Зьвернем за рог, там меней народу. Зручней пагаварыць будзе.

Рабцаў спакайней уздыхнуў.

Некалькі хвілін перадышкі было ў яго распараджэньні і за гэтыя некалькі хвілін трэба было або знайсьці выхад, або сесьці ў дэфэнзыву.

Прайшлі некалькі крокаў.

— Вось, што—сказаў Рабцаў азіраючыся, каб зрабіць выгляд што ён баіцца, каб іх не падслухаў які шпэк,—у апошнія часы ў нашай організацыі адбыліся шматлікія арышты.

Куніцкі падазрона ўскінуў вочы на Рабцава, але твар таго быў спакойны і непранікнёны.



...Калі ты падрасьцеш, ты дапаможаш мне...

— Так... чуў.—Адказаў Куніцкі, напружана думаючы аб тым, да чаго вядзе гутарку Рабцаў.

— Многа адказьнейшых працаўнікоў арыштавана! — спакойна, узьвешваючы кожнае слова і пільна ўглядаючыся ў Куніцкага, гаварыў Рабцаў.

Куніцкі папраівіў гальштук і неўзнарок локцем абмацаў браўнінг, што ляжаў у бакавой кішэні яго паліто.

Прайшлі некалькі крокаў моўчкі ў лютай нянавісьці адзін да аднаго.

— У сувязі з гэтымі і арыштамі я мяркую даручыць табе адну вельмі адказную працу, бо нестае надзейных людзей.




— Прыкідваецца ці сур'ёзна?—думаў Куніцкі, углядаючыся ў твар Рабцава.

— Я хацеў-бы, каб ты ўзяў на гэты час на сябе клопаты аб нашай консьпіратыўнай кватэры.

У Куніцкага моцна забілася сэрца і міжвольна лёгкая фарба заліла яго шчокі.

Консьпіратыўная кватэра! Клубок самага патаемнага ў руках Куніцкага! Няўжо не здагадваецца?—радасна прабеглі думкі ў галаве Куніцкага.

— Я пайду туды, куды мяне пашле організацыя!—ледзь стрымліваючы радасьць,—адказаў Куніцкі.

— Я так і думаў, што ты згодзішся,—прашаптаў Рабцаў.

— А што, калі ён аба ўсіх маіх намерах здагадваецца і м сьціфіцыруе мяне?—зноў прамільгнула думка ў галаве Куніцкага. і халодны струмень сьціснуў яго сэрца і ў вачох яго бліснулі злыя агеньчыкі.

— Ну дык лічым пытаньне вырашаным і заўтра-ж спаткаемся з табою для таго, каб я змог табе паказаць консьпіратыўную кватэру, бо сёньня ў мяне няма вольнай хвіліны.

Зноў думкі, перасякаючы адна адну, спляліся ў галаве Куніцкага. Пропозыцыя прывабная! Бліскучая кар'ера чакае Куніцкага! Толькі ці праўдзіва тое, што гаворыць Рабцаў?

— На якой вуліцы заўтра спаткаемся? — перабіў думкі Куніцкага Рабцаў.

Крыху падумаўшы, Куніцкі назваў вуліцу Міцкевіча.

— Ты-ж ведаеш, што на такіх людных вуліцах мы ніколі ня робім спатканьняў.

Куніцкі, крыху прышчурыўшыся, глянуў на Рабцава,—ці не выбірае глухую вуліцу падумаў ён і ўспомніў пра сьмерць у розных падваротнях Вільні провокатараў, — сваіх колег па профэсіі.

— Выберы другую вуліцу, менш людную,—спакойна прапанаваў Рабцаў, але твар яго быў такі шчыры, што Куніцкі супакоіўся і, паразважыўшы, назваў Маршалкоўскую вуліцу, праўда, ня менш людную, чым Міцкевіча.

— Ну, добра... А шостай гадзіне заўтра на Маршалкоўскай вуліцы... Без спазьненьня...

— Адну хвіліну...—супыніў Куніцкі Рабцава.—У мяне вось,— і ён дастаў з кішэні пачку сьвежых, толькі што атрыманых з дэфэнзывы грошай,—у мяне вось мопраўскія грошы і я хачу зараз табе іх перадаць.

— Пасьпеецца,—наскрозь зразумеў яго няхітры ход Рабцаў. Заўтра перадасі. Ітак, да заўтра!

Значыць усур'ёз думае заўтра спаткацца рашыў Куніцкі і спакойна пайшоў у другі бок.

Якая кар'ера, якая блускучая кар'ера!

## II.

— Разумееш? Твар да твару спаткаў Куніцкага... Ведаеш таго балахоўца-провокатара, што пад выглядам рабочага пралез у партыю...—гаварыў у хаце сваёй жонцы Рабцаў,—Думаў, што ўжо не вярнуся ў хату...

Алесь, пяцёхгадовы сын Рабцава, які ў куту пакою вазіўся з нейкімі кубікамі, не ўдаваў і віду, што чуе гэтую гутарку, бо часта, калі ён пачынаў прыслухоўвацца, гутарка быццам неўзнарок спынялася.

Але Алесь чуў гэтыя словы, як і многія іншыя, і пра сябе думаў:

— Балаховец!—гэта вельмі дрэнна, калі з ім спаткацца.

Жонка Ігната Рабцава,—маці Алеся, яшчэ маладая кабета, але на яе твары ўжо адбілася маршчынамі тая напружаная заклапочанасьць, у якой ёй прыходзілася жыць гэтыя гады.

— Алесь! Ідзі сюды!—уголас сказаў бацька, зьвярнуўшыся да сына.

Алесь хацеў было ўскочыць і кінуцца да бацькі, якога ён нязвычайна любіў, але консьпірацыя, у якой жыла гэта кватэра, яму напамінала нейкую вельмі дзіўную гульню дарослых і ён, падражаючы дарослым, прывучаўся консьпіраваць свае пачуцьці.

— Зараз,—адказаў ён,—я заняты!

Потым, не сьпяшаючыся, Алесь падышоў да бацькі.

— Алесь!—ласкава зьвярнуўся бацька да сына. — Калі ты падрасьцеш, ты мне дапаможаш?.. — бацька абняў сына, пасадзіў да сябе на калені і, правёўшы рукою па яго белакурай грыўцы, перапытаў,—Дапаможаш?

Ці дапаможа Алесь бацьку?.. Радасьць і горласьць перапоўніла маленькае сэрца Алеся і ён ледзь не заплакаў ад любові і дзіцячай адданасьці бацьку, але нешта ўспомніўшы стаў сур'ёзным і падражаючы бацьку пастараўся зморшчыць лоб і як мага мацней сьціснуць бровы.

— Дапамагу!—грубым, як у дзядзі Васіля, што да іх заходзіў, голасам адказаў Алесь.

... І ўжо змрок атуліў зямлю, і тысячагадовы месяц паплыў скрозь хмаркі сваім старым шляхам і ўсё яшчэ гутарылі і радзіліся паміж сабою бацька і дзіця, якое так мала бачыла дзяцінства.

## III.

На другі дзень роўна а шостай на ўмоўленым месцы зьявіўся Куніцкі.

Кар'ера сама ішла яму ў рукі і нэрвова бадзёрая радасьць прымушала нецярпліва біцца яго сэрца.

Ён прайшоўся па вуліцы, падазрона ўглядаючыся ў сустрэчных. Бач, у дэфэнзыве турбаваліся, што гэта былі хітрыкі Рабцава, каб уцячы ад Куніцкага..

Але ад Куніцкага ня так лёгка ўцячы!

Куніцкі глянуў на гадзіньнік.

Было пяць хвілін на сёмую.

Зараз зьявіцца! рашыў Куніцкі, цярпліва ходзячы па тротуары. Ад яго, ад Куніцкага, ня так лёгка ўцячы!..

Праходзілі хвіліны, уздымаючы напруджанасьць Куніцкага.

— Няўжо сапраўды гэта былі хітрыкі Рабцава? — прарэзала галаву думка і болем сьціснула сэрца провокатара.

— Не, ня можа быць... Ён прыйдзе, — ён павінен прыйсьці... ледзь не маліўся Куніцкі.

За жыцьцё Рабцава, ён, Куніцкі атрымае ўзнагароду. І Куніцкі бачыў сябе ў ордэнах і нашыўках...

Праходзілі хвіліны... але таго, ад каго залежала кар'ера Куніцкага, ня было. Чалавек у ордэнах закруціўся ў вачох Куніцкага і як міраж зьнік, пакінуўшы на тротуары разгубленага, абуранага агента дэфэнзывы.

Дзесяць, пятнаццаць хвілін на сёмую.

Куніцкі адчуваў як б'ецца яго сэрца.

— Жулік, рабаўнік, нясумленны бандыт! — падшукваў Куніцкі словы для таго, каб вызначыць імі ўчынак Рабцава.

Павольна беглі хвіліны.

Куніцкі прайшоў па вуліцы яшчэ раз і, азірнуўшыся, зьвярнуў за рог.

Тут-жа да яго падскочылі два джэнтльмэны. З-пад двух капялкоў джэнтльмэнаў, замест твараў, глядзелі два запытальнікі.

— Панове... ня ведаю, шток гэта магло значыць... Ён заўсёды быў такім акуратным... Панове,—ня ведаю, што мне цяпер сказаць начальніку...

Кацялкі ўсьміхнуліся і адзін з іх сказаў, ледзь стрымліваючы пагардлівую ўсьмешку:

— Скажэце, што вы дрэнны агент дэфэнзывы...

— Так... Пан Куніцкі апынуўся, няхай пан прабачыць, — у дурнях...—пацьвердзіў другі кацялок...

— Няхай паны крыху пачакаюць са сваімі меркаваньнямі!.. пахмурна сказаў Куніцкі...—Я яго ўсё роўна, ці жывым ці мёртвым,—дастаўлю дэфэнзыве...

## IV.

Куніцкі дзень і ноч шныраў па вуліцы, пляцох, завулках... Куніцкі ўглядаўся ў сустрэчных, даганяў тых, хто ішоў сьпераду.

Ён круціўся, як ашалелы, ішоў, выцягнуўшы галаву, як лягавы, гатовы кожную хвіліну зрабіць стойку. І тады, калі ён ужо выбіваўся з ног, калі ён ужо рашаў, што Рабцаў згінуў бясьсьледна — Куніцкаму пашчасьціла. Зноў нечакана для іх абодвых яны спаткаліся тварам да твару.

— Трымайце яго, — гэта самы люты бальшавік! — крыкнуў нэрвова гістэрычным крыкам Куніцкі.

У хвіліну натоўп, цікавы да ўсякіх здарэньняў, абкружыў Рабцава.

Падбеглі паліцэйскія, афіцэры, шпікі. Паліцэйскія, убачыўшы перад сабою надворна зусім спакойны твар Рабцава, замяліся.

— Гэта вар'ят! Зусім спакойна, амаль бязудзельным голасам сказаў Рабцаў. Я першы раз у жыцьці бачу гэтага няшчаснага... Вось мае дакуманты і праверце з якога вар'яцкага дому ўцёк гэты пан.

— Панове! Я свае дакуманты пакажу толькі ў дэфэнзыве. Паліцэйскія пераглянуліся, потым адзін з іх сказаў:

— Няхай пан будзе ласкаў прайсьці з намі ў дэфэнзыву...

— Але ў мяне няма часу!..

— Але пан адразу-ж выйдзе з дэфэнзывы!

Нехта крыкнуў рамізьніка, Рабцава і Куніцкага ўсадзілі і павезьлі ў дэфэнзыву.

Рабцаў узважываў кожнае сваё слова, якое ен скажа ў дэфэнзыве, спадзяючыся да апошняга.

Нарэшце дзьверы дэфэнзывы адчыніліся.

— А... Мы пана шукаем, шукаем, а пан сам да нас прыехаў...— радасна млосным голасам ускрыкнулі два кацялкі, накіроўваючыся да Рабцава.

## V.

Ігната Рабцава, — бацьку Алеся, засудзілі на шмат гадоў цяжкога „вязэньня“.

Калі бацька выйдзе з катаргі, сын будзе ўжо дарослым. І калі Алесь першы раз пачуў аб гэтым, з вачэй Алеся на заўсёды зьбегла дзіцячая радасьць і Алесь пакляўся:

— Я дапамагу табе, бацька!..

— Толькі хутчэй падрастай! — гледзячы вачмі, поўнымі любові і журбы, адказала маці.

... І кожны дзень, кладучыся з вечара ў ложак, Алесь чакае, што ён заўтра прачнецца дарослым.

І кожную раніцу, прачнуўшыся, Алесь шкадуе, што ён яшчэ дзіцянё...

Але прыйдзе некалі адзін такі дзень, і ў гэты дзень Алесь прачнецца дарослым.

І Алесь тады дапаможа бацьку!..

І гэта нямінуча і супроць гэтага бясьсільны ўсе кацялкі дэфэнзывы,—як бясьсільны яны супроць ходу гісторыі.



...—Трымайце яго,—гэта самы люты бальшавік...

# НА РЫШТАВАНЬНЯХ СОЦЫЯЛІСТЫЧНАГА БУДАЎНІЦТВА

## НОВЫ МЕНСК ПЕРАТВАРАЕ БЫЛУЮ ЗАХАР'ЕЎСКУЮ Ў САПРАЎДЫ САВЕЦКУЮ ВУЛІЦУ

Фота здымкі САЛАВЕЙЧЫКА.









кога цэнтру. Пасьля далучыліся і іншыя фабрыкі і прадпрыемствы. З самата пачатку забастоўка прыняла ўсеагульны характар. Па распараджэньні гарадзкой улады электрастанцыя і вадаправод былі заняты тэхнічным войскам. Вакол бастуючых прадпрыемстваў былі выстаўлены ваенныя варты, якія не давалі бастуючым прабрацца на прадпрыемствы.

Адначасова выбухнула стыхійная ўсеагульная забастоўка тэкстыльшчыкаў у Беластоку, з прычыны зьніжэньня на 8 процантаў зарплаты на тэкстыльнай фабрыцы Пагабуцкага. 25 рабочых, якія працавалі на гэтай фабрыцы і не хацелі згадзіцца на гэтае зьніжэньне, былі звольнены. На месца іх былі ўзяты штрэйкбрэхэры, якія працавалі пад аховай паліцыі.

Вестка аб гэтым з надзвычайнай шпаркасьцю пашыралася сярод рабочых. 300 чалавек тэкстыльшчыкаў кінулі працу на фабрыках і зьявіліся перад фабрыкай Пагабуцкага з патрабаваньнем звальненьня штрэйкбрэйхэраў і прыняцьця на працу лёкаўтаваных. Калі фабрыкант адмовіўся гэта зрабіць, была абвешчана ўсеагульная забастоўка на ўсіх тэкстыльных фабрыках Беластоку.

Гродненскія і беластоцкія падзеі выклікаюць вялікую трывогу ў ва ўрадавых колах. У пачатку ліпеня ў Варшаве адбыўся зьезд усіх ваявод Польшчы, на якім адзначалася, што ў радзе буйных гарадоў Польшчы, у часе прыдушэньня выступленьняў беспрацоўных, паліцыя напаткала на гэткія перашкоды, якіх ня ведала гісторыя Польшчы апошніх 12 год.

Выступленьні носяць усё больш бурны і ўпарты характар. На працягу ліпеня ў Вільні адбываліся бурныя дэмонстрацыі беспрацоўных перад магістратам, прычым беспрацоўныя ўрываліся ў будынак магістрату, зьнішчаючы там абстаноўку. 6-га ліпеня група беспрацоўных каля 500 чалавек накіравалася на вуліцы Вялікай і Замкавай да ваяводзтва. Тут дэмонстрацыя вылучыла дэлегацыю ў 5 чалавек, між імі дзьве жанчыны з малымі дзецьмі на руках, якія накіраваліся да ваяводы. Ня гледзячы на распачлівае становішча галадаючых беспрацоўных — ваявода адмовіўся прадставіць ім працу або дапамогу.

Калі адказ ваяводы стаў вядомы дэманстрантам — у вокны ваяводства паляцеў град каменьняў. Быў выкліканы атрад коннай паліцыі, які дэмонстранты таксама сустрэлі градам каменьняў. Некалькі паліцэйскіх і 16 коняй былі параненым. Толькі пасьля некалькіх атак паліцыі з голымі шаблямі ўдалося ачысьціць вуліцу.

Ня менш бурная дэмонстрацыя 400 беспрацоўных і сялян адбылася ў апошнія дні чэрвеня ў Менску-Мазевецкім. Дэмонстранты накіраваліся да комісарыяту паліцыі, патрабуючы вызваленьня арыштаваных папярэдняга дня дэлегатаў комітэту беспрацоўных. Паліцыя атакавала натоўп. Беспрацоўныя пачалі вырываць дошкі з парканаў і кінуліся на паліцыю воклічамі: „Страляйце ў нас, бо мы ня маем чым карміць галодных дзяцей“. У часе разгону дэмонстрацыі паліцыя арыштавала некалькі чалавек, у тым ліку адну жанчыну. Беспрацоўныя прабавалі адбіць арыштаваных, але бяз посьпеху.

У часе допыту жанчыны комісар паліцыі крычаў на яе: „Ты бальшавічка, комуністка, скажы зараз-жа, хто табе загадаў ісьці на дэмонстрацыю?“ Беспрацоўная адказала: Калі пан хоча, дык магу прывесьці тых, якія мяне выслалі на дэмонстрацыю“.

Абрадаваны комісар, думаючы, што ён ужо выкрыў правадыроў дэмонстрацыі, хутка паслаў жанчыну з паліцэйскімі. Як-жа ён быў раззлаваны, калі праз некаторы час паліцэйскі вярнуўся разам з гэтай жанчынай і 4-мя малымі дзяцьмі.

— Вось тыя бальшавікі, якія мяне паслалі на вуліцу на дэмонстрацыю.

Фашыцкі дыктатар Пілсудзкі адмовіўся рабіць больш цуды і высунуў на першае месца паліцыю і жандармэрыю, каб яны ня цудамі, а кулямі і шаблямі прымусілі сотні тысяч беспрацоўных ціха паміраць з голаду.

І хто ведае, мо' ў гэтай віхуры пролетарыят Польшчы зробіць „цуд“, але ўжо гэты цуд будзе ня цуд, а ўсеагульная забастоўка, якая перарасьце ва ўзброенае паўстаньне, якое зьмяце з твару польскае зямлі капіталістычную анархію разам з яе фашыцкай дыктатурай і соцыял-фашыцкімі падгалоскамі.

## „ЮНЫЯ ВЫНАХОДЦЫ“ ДА ЗЬЛЁТУ ПІОНЭРАЎ.



# ДВА
## СЛОВЫ
# пра ДЗЯРЖЫНСКАГА

АРТЫКУЛ МЯНЖЫНСКАГА



Ф. ЭД. ДЗЯРЖЫНСКІ.

Пяць год, як няма Дзяржынскага.

Але жыве яго справа, жывуць яго думкі, жыве яго тактыка, і з ім прыходзіцца лічыцца як з жывым будаўніком соцыялізму, работнікам сучаснасьці, а не героічнай фігурай мінулага, адыходзячай з кожным днём у забытасьць. Дзяржынскі быў практык, не тэорэтык, а ўплыў практыкаў, сышоўшых са сцэны, хутчэй згасае, але ён—сумленны, адданы і сьціплы ў сваёй героічнай велічы партыйны дзеяч, умеў быць дыялектыкам у сваёй рабоце, навучыўся дыялектыцы ў рэволюцыйнай барацьбе, на катарзе і высылцы, у партыйным супрацоўніцтве з Леніным і Сталіным—і ён жыве, ён дагэтуль аппадатварае справу барацьбы за комунізм.

Дзяржынскі літаральна да канца быў верны партыйным заветам, аддаў сваё жыцьцё за іх для рабочай клясы, для партыі, проста, ня выпукляючы сваёй фігуры. А тыя, з якімі пад кіраўніцтвам Сталіна ён змагаўся, опозыцыянэры,—калі яны ўпарствуюць,—яны знаходзяцца па той бок барыкады, лаюць пяцігодку на старонках буржуазных газэт, капаюць маленькую ямку пад будуючымся соцыялізмам побач з Гувэрам і іншымі імпэрыялістамі.

Прыклад: жывы мярцьвяк у Константынопалі, літаратар-рэнэгат.

Словы Сталіна аб старой тэхнічнай інтэлігенцыі і аб нашым падыходзе да яе—ці-ж не гавораць яны аб жывучасьці тактыкі Дзяржынскага, ня выдуманай ім, а цалкам выцякаўшай з партыйных вытокаў?

Я не сумняваюся, што Дзяржынскі з усёй палкасьцю сваёй істоты вітаўбы прамову Сталіна на нарадзе гаспадарнікаў, яна была-б для яго роднай і таварышы гаспадарнікі маглі-б гэта давесьці, але я хачу расказаць толькі аб тым, як у нашых абставінах у абставінах нэпу Дзяржынскі праводзіў адпаведную лінію ў адносінах да старых спэцыялістаў і ў НКШляхоў і ў ВСНГ і як ён прымушаў АДПУ дапамагаць яму ў яе правядзеньні.

ВСНГ, калі Дзяржынскі пачаў у ім сваю работу, зьяўляўся свайго роду новым каўчэгам, асеўшым на Міліоцінскім завулку: многа старых гаспадарнікаў, вопыт якіх вельмі часта вымяраўся колькасьцю разваленых прадпрыемстваў, часта не хацеўшых вучыцца і ня ведаўшых вытворчасьці. З другога боку—бязьліч сп-цаў, займаўшыхся тады шкадлівым клапатлівым нічоганяробленьнем, схэмамі, проектамі, перапіскай, у тым ліку і са сваімі былымі гаспадарамі, якім нават іншыя буйнейшыя імёны рускай тэхнікі ня гнушаліся паведамляць за мзду весткі аб стане іх былых прадпрыемстваў.

Фэлікс Эдмундавіч прыйшоў туды з цяжкім сэрцам. Яшчэ ў НКШляхоў яму было вядома, што многія будучыя правыя опозыцыянэры лічуць яго ўдарнікам, а не гаспадарнікам, чакісцкімі мэтодамі падняўшым транспорт ад разрухі. Тыя-ж асобы не бяз зларадзтва чакалі, ці не праваліцца ён, ці вытрымае экзамен на гаспадарніка, кіруючы гэткай махінай як ВСНГ.

Час быў нэпаўскі і цяжкі: ягo прыходу папераджаў цяжкі крызіс цэн.

На дапамогу гэтых „прыяцеляў" Дзяржынскі не разьлічваў, але ў яго былі энкапэзаўскі вопыт і чакісцкія мэтоды, аснова якіх зводзілася да таго, каб ні накогане спадзявацца ўсё правяраць на фактах, даходзіць да іх самому, працаваць з максымальнымі тэмпамі, разьвіваючы шалёную энэргію, абапірацца на рабочую клясу і безагаворачна слухацца партыі. Быў у яго вопыт і са старымі спэцамі, таму што ў 1921—24 гадох маладых спэцыялістаў ня было. Прыйшоўшы ў НКШляхоў, Дзяржынскі адразу ўзяў тую лінію на прыцягненьне спэцыялістаў да работы, прадстаўленьне яму максымальнай самастойнасьці і патрабаваньне ад яго сапраўднай работы, а не прожэктарства, якую ён вёў да самай сьмерці. Дырэктыўны загад па НКШляхоў на 27 мая 1921 г. гаворыць: „да тых з тэхнічных кіраўнікоў, якія натхнёны вялізарнасьцю стаячых перад імі задач па тэхнічным адраджэньні транспорту рабоча-сялянскай рэспублікі і працуюць самааддана і сумленна, мы абавязаны аднесьціся з поўным давер'ем і таварыскай увагай". Гэта Дзяржынскі і праводзіў.

Дзяржынскі шырока скарыстаў АДПУ для абароны спэцыялістаў ад рознага роду ўціску, жыльлёвага і іншых, але ён вельмі хваравіта адносіўся да фактаў апошняга роду, яны зрывалі яго лінію, ён лічыў, што калі соцыялістычнае будаўніцтва сваёй магутнасьцю прыцягвае да нас нават былых актыўных контррэволюцыянэраў, іх трэба скарыстаць абавязкова—ва ўсю, і да тых пор, пакуль яны ідуць з намі. Трымаць адчыненымі вочы трэба, але нельга дапускаць, каб людзі, працуючыя з намі пад уплывам прасьледваньня абкружаючага асяродзьдзя і яго вечнай сападазронасьці і недавер'я, часта няпісьменнага, зноў адыходзілі ў лягер ворагаў.

У НКШляхоў Дзяржынскаму ўдалося вывесьці транспорт з разрухі, аб'яднаўшы вакол сябе ў адным героічных парыве і чыгуначны пролетарыят, і комуністаў, і спэцыялістаў, а калі ўласных сіл транспорту не хапала, ён налягаў на транспортны аддзел АДПУ, дзе было многа чыгуначнікаў, і ў цяжкіх выпадках падмяняў іх сіламі прышоўшую ў расстройства рэгулярную работу транспорту. Транспортнікі АДПУ працавалі дзень і ноч, то прасоўваючы грузы, то ахоўваючы іх, то змагаючыся з бандытызмам, кражамі ашуканствам і інш. і інш., гадамі ня маючы адпачынку, як на фронце.

У апошні год работы на транспорце здарыўся такі маляўнічы выпадак: яму патрабавалася адна важная табліца; атрымаўшы яе, Дзяржынскі са зьдзіўленьнем убачыў, што малюнак атрымліваецца надзвычайна незразумелы. Пайшоўшы ў водпуск на 10 дзён, Дзяржынскі засеў за гэтую табліцу, і ён, Наркомшляхоў, павінен быў сам пералічыць і перарабіць яе і тады з абурэньнем пераканаўся, што ня толькі даныя перабльтаны, але нават складаньне няверная. Для добрадушнага агульнага давер'я да апарату месца ня было.

З гэтым вопытам Дзяржынскі прыступіў да ВСНГ, і ўсё-ж такі лініі сваёй да спэцыялістаў ён не зьмяніў. Гэта ў першую чаргу адчувала АДПУ. Калі мы атакоўвалі яго па поваде якіх-небудзь меншавікоў, ён няязьменна паўтараў нам: „Зараз яны бясьсільны, да пары да часу пакіньце іх у спакоі, няхай яны працуюць, я суджу аб іх па рабоце". Ня буду падаваць далейшых прыкладаў, як ён політычна выхоўваў работнікаў АДПУ, ня буду паўтараць усім вядомых публічных выступленьняў Дзяржынскага аб старых спэцыялістах, ня мне апавядаць, як ён чысьціў, рэорганізаваў ВСНГ. Пытаньне так і было пастаўлена, што можна будзе ўзяць у нас для ўздыму прамысловасьці, па-першае, людзей, людзей і людзей. Будучы Наркомшляхоў, Дзяржынскі абапіраўся на транспортны аддзел АДПУ, прамысловай ЧК ня было, а ствараць яе ён лічыў бескарысным. Сярод транспортнікаў было многа чыгуначнікаў, але прамысловай тэхнікі мы тады ня ведалі. Вопыт ВЧК па барацьбе са спэкуляцыяй і справы па безгаспадарчасьці складалі дрэнную падрыхтоўку для такой прамысловасьці ЧК, якая магла-б быць карысна Дзяржынскаму, але буйных талковых людзей з інтарэсам да экономікі, жадаючых вучыцца вытворчасьці—было многа. Дзяржынскі іх і зрабіў праваднікамі сваёй лініі ў адносінах да спэцыялістаў, забраўшы іх усіх у ВСНГ.

Як мы тады гаварылі, ВСНГ ператварыўся ў грабілаўку, забірае нашых людзей. Мы разумелі неабходнасьць гэтай меры і вынікі работы Дзяржынскага ў ВСНГ зусім яе апраўдалі. Але варэшце, і мы ня страцілі. Калі зьмяніліся абставіны і запахла інтэрвэнцыяй і цэлы рад інжынэраў заняўся шкодніцтвам, дык выкрылі гэтых шкоднікаў на капальнях і НКШЗ два таварышы, узятыя Дзяржынскім на работу ў ВСНГ і якія вярнуліся цяпер да нас. Карыстаючыся сваім вопытам, яны змаглі паставіць колумбава яйка, што зьяўляецца асноўным у барацьбе з новымі формамі контррэволюцыі. Школа Дзяржынскага не прапала дарма.

# ЦЫНГІЛЬБУД

## РАБОЧЫ ТЭАТР ПРЫ ЦСПСБ



МАСТАК АХРЭМЧЫК



ПАСТАНОУКА РЭЖЫСЭРА ГАЛАУЧЫНЕРА

ЗДЫМКІ САЛАВЕЙЧЫКА

# КНІЖНАЯ ВІТРЫНА

**Платон Галавач.—„Доляры“** (аповесьць) БДВ, Менск, 1931 г. 80 стар. цана 30 кап.

Платон Галавач—сёньня зьяўляецца адным з буйнейшых нашых пролетарскіх пісьменьнікаў. Яго творчасьць зьяўляецца найлепшым доказам няўхільнага росту нашай пролетарскай літаратуры.

Проблема асобы і колектыву распрацоўваецца ў шэрагу яго твораў, як „Вінаваты“ і „Доляры“.

У аповесьці „Доляры“ Галавач паказвае ўплыў дробнабуржуазнага асяродзьдзя на паасобных сяброў рабочага колектыву і членаў партыі. Работніца драждживога заводу комуністка Зося Хмарына атрымала ў спадчыну з Амэрыкі дванаццаць тысяч доляраў, але гэты факт захавала ад ячэйкі. Адначасна яна трапляе пад уплыў дробна-буржуазнага асяродзьдзя і калі перад ёй паўстае пытаньне аб перадачы грошай у агульнапартыйную касу, яна адмаўляецца. Адначасна




аўтар выводзіць цэлую галерэю адданых справе рабочых, якія змагаюцца за палепшаньне якасьці продукцыі.

Гэта проблематычнасьць яго творчасьці пашырае і абагачае нашу пролетарскую літаратуру.

Аўтар ставячы рубам пытаньне, прымушае чытача задумацца, аформіць свае адносіны да такіх фактаў.

**Міхась Зарэцкі.—„Лісты ад знаёмага“.** БДВ, Менск, 1931 г., стар. 144, цана 55 кап.

Новая кніжка М. Зарэцкага зьмяшчае два творы: „Лісты ад знаёмага“ і „Вясна 1930 г. „Іх тэматыка—вялізарныя зрухі, якія адбываюцца ў жыцьці вёскі. „Гэтыя нарысы паказваюць чытачу, як у сьвядомасьці пэўнай групы пісьменьнікаў пераламляецца рэальны поступ соцыялізму. Перапарэньне дробна-таварнага паўпатрыярхальнага селяніна ў сьвядомага актыўнага працаўніка соцыялістычнай гаспадаркі“. Аднак аўтар ня здолеў адчуць усю складанасьць і глыбіню гэтых процэсаў, даць іх у органічнай сувязі з падзеямі вялізнай гістарычнай важнасьці і клясавай практыкай Зарэцкі ў гэтай кнізе ўяўляецца ў постаці староньняга на зіральніка з не ак-тыўна-дзейнага ўдзельніка нашага соцыялістычнага буд ўніцтва.

Аднак, усё-ж кніжка сьведчыць, што „Зарэцкі нерашуча, непасьлядоўна, з аглядкаю назад, хістаючыся з боку ў




бок, кульгаючы, робіць дзяцінныя крокі на шлях савецкага пісьменьніка, нясучы пры гэтым і на сабе, і ўнутры сябе свой ранейшы дробна-буржуазны груз“.

Будзем спадзявацца, што наша рэчаіснасьць „дасьць запал і матэрыял для далейшай творчасьці Зарэцкага і яго суб'ектыўныя імкненьні, што вылучаюцца ў гэтай кніжцы, набудуць об'ектыўную рэальнасьць“. Да кніжкі прадпаслана прадмова Л. Бэндэ.

**С. Знаёмы. „Дом № 31“** (нарысы), 56 стар., цана 22 кап.

**С. Знаёмы.—„За дамбаю“** (нарысы) 120 стар., Цана 40 кап., БДВ, Менск, 1931 г.

У свой час мы аднатоўвалі выхад другой кніжачкі „Відагоршчы“ („Чырвон. Белар.“ № 9—1930) былога ра-




бочага „Чырвонай Бярэзіны“ С. Знаёмага. Дзьве ягоных новых кніжкі зьмяшчаюць шэраг нарысаў з жыцьця рабочых на фабрыках і заводах Беларусі. Частка нарысаў друкавалася ў газэтах, другая частка зьяўляецца ў друку ўпяршыню. Фабрыка „Чырвоная Бярэзіна“, шчотачная імя Крупскай, „Беларуска“, завод „Комунар“, Гомсельмаш, рабочы пасёлак, праца плытагонаў—вось аб чым піша аўтар. Соцыялістычнае спаборніцтва, ударніцтва, барацьба за выкананьне прамфінпляну—вось што стаіць у асяродку яго ўвагі. І трэба сказаць, што з сваімі тэмамі аўтар, у асноўным, справіўся. Ён здолеў паказаць сапраўды жывых людзей нашага сёньня, якія выконваючы сваю, інады нязначную, працу змагаюцца за соцыялізм. Лепш у параўнаньні з ранейшай кніжкай, аўтар аўладаў мастацкімі сродкамі. Будзем спадзявацца, што ў сваіх наступных творах аўтар, не адрываючыся ад асноўных крыніц сваёй творчасьці, здолее паказаць рост і афармленьне новага чалавека. Частковa гэта мы ўжо маем у „Каці Астаповіч“ (зб. „За дамбай“).

**С. Малашэнка і А. Лейбман,—„Новы цэх варашылаўцаў“.** БДВ, Менск, 1931 г., 28 стар., цана 7 кап.

Заклік рабочых ударнікаў у літаратуру, які пачаты Бел. АПП, пачынае даваць пэўныя конкрэтныя вынікі.

Гэта невялічкая кніжачка зьяўляецца першай ластаўкай творчасьці рабочых-ударнікаў на Беларусі, якая выходзіць асобным выданьнем. Напісаная двума рабочымі заводу імя Варашылава яна паказвае змаганьне рабочых




за новы цэх на сваім заводзе, за цэх грамадзкага харчаваньня.

Рэорганізацыя мэтодаў грамадзкага харчаваньня на заводзе, якая праводзіцца пад лёзунгам „Сталоўка—цэх прадпрыемства“, барацьба заводзкіх організацый за лепшую пастаноўку грамадзкага харчаваньня—вось што стаіць у асяродку ўвагі аўтараў. Яны не ізолююць пытаньне грамадзкага харчаваньня. Для іх новая сталоўка „новы цэх варашылаўцаў“—дапаможнік у барацьбе за выкананьне і перавыкананьне прамфінпляну. Аўтары паказваюць, як дзякуючы неорганізаванасьці харчаваньня на заводзе штодзенна марна губляліся звыш 100 працоўных гадзін і як рэорганізацыя дапамагла зьнішчыць гэта ненормальнае зьявішча. Будзем спадзявацца, што ўсьлед за гэтай першай кніжкай зьявяцца дзесяткі новых кніжок рабочых-ударнікаў. Трэба толькі пажадаць, каб гэта кніжка як мага хутчэй і шырэй была пашырана.

Выданьне Беларускага Дзярж. Выдавецтва — Адказны рэдактар МІХАСЬ ЧАРОТ.

# ШАХМАТЫ № 4

Пад рэдакцыяй А. А. КАСЬПЕРСКАГА і Я. Е. КАМЯНЕЦКАГА.

## Міжнародны конкурс складаньня шахматных задач „Чырвонай Беларусі“

**Задача № 7.** Дэвіз „Колектыўная“



**Белыя:** Kpe1, Фg2, Лc3, Cb5 і f8, Ke6 і g5, пd6... (8)

**Чорныя:** Kpd5, Фh7, Лa6, Cb6, Kb1, пп: a7, b7, c7, e3, e4, e5, g7, h5 (13)

Мат у 2 хады.

**Задача № 8.** Дэвіз „Перамога“



**Белыя:** Kpa5, Фg8, Лc5 і f7, Cb1 і g1, Kc6 і d4, пп e2, f3, f6...(11)

**Чорныя:** Kpf4, Фh8, Лh5, Cg5, Kf1, пп e3, g2, g3...(8)

Мат у 2 хады.

## Усесаюзныя шахматна-шашачныя спаборніцтвы ў 1931 г.

1. Парадак правядзеньня ўсесаюзных спаборніцтваў, асьвечаны ў № 10 „Чырвонай Беларусі“; некалькі зьменен,—акрамя турніраў па рэспубліках і вобласьцях, з правам удзелу пераможцаў у чэмпіянаце; да ўдзелу ў чэмпіянаце будуць дапушчаны чэмпіёны наступных гарадоў: Масквы, Ленінграду, Харкаву, Тыфлісу і Менску, да гэтых турніраў будуць дапушчаны і ня толькі пераможцы з ліку лепшых ігракоў, заняўшых у чэмпіянатах вышэйшыя месцы.

2) Таксама намечана правесьці малы чэмпіянат па шашках у асноўным на тых самых умовах, на якіх праводзіцца і шахматны чэмпіянат.

3) Турнір чэмпіянат па шахматам Чырвонай арміі.

4) Жаночы шахматны турнір чэмпіянат.

5) Командныя шахматна-шашачныя спаборніцтвы на пяршынства ЎсеЦСПС.

### Я. С. ВІЛЬНЭР †

29 чэрвеня ў Ленінградзе памёр шахматны майстар Я. Вільнэр (нарад. у 1899 г.). Пакойны лічыўся адным з лепшых ігракоў УССР, таксама цікавіўся і шахматнай композыцыяй і неаднакраць на конкурсах браў адлічча. У практычнай ігры Я. Вільнэр больш цікавіўся самай партыяй, менш зьвяртаючы ўвагі на месца ў турніры; таму ўсе партыі яго прасякнуты асноўнай ідэяй выйграць—будзь што будзе. У 1925 г. ў Ленінградзе на Ўсесаюзным шахматным чэмпіянаце Я. Вільнэр першы выйграў у тады неператожнага Е. Багалюбава (партыя ніжэй).

Белыя Е. Багалюбаў, Чорн. Я. Вільнэр.

1. d2—d4, d7—d5; 2. Kg1—f3, Kg8—f6; 3. c2—c4; c7—c6; 4. e2—e3, e7—e6; 5. Kb1—c3, Kb8—d7, 6. Cf1—d3. d5:c4; 7. Cd3:c4, b7—b5; 8. Cc4—b3, a7—a6; 9. e3—e4, c6—c5; 10 e4—e5, c5:d4; 11. Kc3:b5. Так ігралі да гэтай партыі па рэцэпце майстра Блюмэнфэльда, 11...Kd7:e5 лічыцца лепшай абаронай, ход паказан майстрам Созіным. 12. Kf3:e5 ab:b5, 13. o—o, Фd8—d5!; 14. Фd1—f3 Cc8—ab; 15. Cc1—g5, Cf8—c7; 16 Лf1—c1? o—o; 17. Фf3—h3 h7—h6; 18. Cg5—f4, Cc8—b7; 19. Лc1—e1 ладзьдзя вярнулася, але позна; 19... Ce7—e4!, 20. Лe1—e2, Лa8:a2; 21. Лa1—f1, Лf8—a8; 22. f2—f3, Cbe—f8!; 23. Kc5—g4, Kf6:g4; 24. Фh3:g4, Фh5—b3!; 25. Cd3—b1. Лa2:b2; 26. Лe2—e1, d4—d3; 27. Лe1—c1, Лa8—a1; 28, Cb1—c2, Лa1:c1. Багалюбаў здаўся. Партыя праведзена Вільнэрам у найлепшым стылі.

ЦАНА 15 кап.



# ПРАЦЯГВАЕЦЦА ПАДПІСКА НА 1931 ГОД

на часопісь літаратуры, мастацтва і крытыкі

# „УЗВЫШША“

**ВЫДАНЬНЕ БЕЛДЗЯРЖВЫДАВЕЦТВА**

**ВЫХОДЗІЦЬ 12 КНІГ У ГОД**

**„УЗВЫШША“—друкуе мастацкія творы беларускіх і іншакраёвых пісьменьнікаў, шырока асьвятляе пытаньні поэзіі і наогул усіх галін мастацтва.**

**„УЗВЫШША“—жыва адклікаецца ў мастацкім слове на ўсе пытаньні палітычнага, літаратурнага і мастацкага жыцьця.**

## УМОВЫ ПАДПІСКІ:

| | |
|---|---|
| на 1 год | 6 р. — |
| на 6 мес. | 3 р. 50 к. |
| на 3 мес. | 2 р. 30 к. |

## АСОБНЫ НУМАР—80 кап.

**ПАДПІСКА ПРЫМАЕЦЦА:** Менск, Савецкая, 79, усімі кнігарнямі, кіёскамі і ўпаўнаважанымі БДВ, ва ўсіх паштова-тэлеграфных канторах і крамамі спажывецкай коопэрацыі.

Друкарня імя Сталіна Зак. № 1652. (8.000 экз.). Галоўлітбел № 1031.